„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr



# Ніва



№ 10 (106) БЕЛАСТОК, 9 САКАВІКА 1958 г. ГОД III

**Прывітанні дэлегатам канферэнцыяў БГ-КТ у ГАЙНАЎЦЫ, БЕЛЬСКУ і САКОЛШЫ!**

Перад з'ездам БГ-КТ

## Канферэнцыя у Семятычах

Дзень 2 сакавіка г. г. для беларускага насельніцтва Семятыцкага павета быў асаблівым днём, днём вялікай важнасці. У гэтым дню адбылася тут канферэнцыя павятовага аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Не гледзячы на тое, што выпаўшы снег пазасыпаў дарогі, выбраныя дэлегаты нават з далёкіх вёсак прыехалі на канферэнцыю. Многіх прывезена грузавымі самаходамі.

Прыблізна ў 11 гадзін, вялікая зала была напоўнена дэлегатамі, і запрошанымі гасцьмі. Старшыня павятовага Аддзела БГ-КТ, Пятро Бадавец кароткай прамовай адкрывае канферэнцыю, прапануе склад прэзідыума, старшыню і сакратара канферэнцыі, а пасля дае слова сакратару аддзела БГ-КТ, Сяргею Крэйзе, — ён выступае з дакладам. У дакладзе гаварылася аб беларускіх справах у Семятыцкім павеце, звязаных з беларускай культурай, з беларускімі традыцыямі, аб правільнай нацыянальнай палітыцы нашай партыі, аб вялікай і ўсебаковай дапамозе, якую наш урад аказвае беларускай арганізацыі ў Польшчы, беларускаму насельніцтву. Гаварылася таксама аб тым, што некаторым шавіністычным элементам не падабаецца нацыянальная палітыка нашай партыі і яны выступаюць супроць яе. Хаця вельмі рэдка, аднак здараюцца выпадкі ў Семятыцкім павеце, што гэтыя элементы дыскрымінуюць беларусаў. Аб праявах дыскрымінацыі падчас спрэчак гаварыла Марыя Канюка з вёскі Гарнова.

Марыя Канюка парушыла яшчэ адну важную справу, а менавіта, справу роднай мовы ў тых вёсках, дзе мала беларусаў. У такіх вёсках беларусы не маюць ніякай магчымасці вучыцца роднай літаратурнай мове Гэта справа вельмі складаная і яшчэ невырашана. Зразумела, яна павінна быць на варштаце дзейнасці нававыбранага павятовага аддзела.

Аб неабходнасці навучання роднай мове, аб яе прыгажосці, меладычнасці, палымяна гаварыла Люба Сыч — настаўніца з вёскі Рагачы.

— «У нашай школе — сказала яна — 200 дзяцей вучыцца роднай мове. Усе яны любяць яе. У прывіванні любві да роднай мовы, агромную дапамогу аказвае нам «Ніва», а ў першую чаргу, яе бясплатны дадатак для дзяцей — «Зорка».

Пасля Люба Сыч дастае «Зорку» і чытае верш вучаніцы V класа Кленіцкай школы, Гайнаўскага павета, верш аб беларускай мове, аб тым, як яе трэба шанаваць.

Люба Сыч так па-мастацку прачытала гэты верш, так палымяна, што ён запаў глыбока ў сэрцы прысутным дэлегатам. Ён даў адчуць значэнне роднай мовы; сказаў аб тым, што яе трэба шанаваць, як родную, добрую, клапатлівую маці.

Побач мяне сядзела старэйшая жанчына, якую поўнасцю «узяў у палон» гэты верш — яна, выціраючы хусткай слёзы, гаварыла да сваёй суседкі:

— «Чаму-ж нам аб гэтым ніхто не гаварыў, гэта чыстая праўда».

На канферэнцыі выбрана новае праўленне Аддзела БГ-КТ, выбрана дэлегатаў на агульнапольскі З'езд БГ-КТ і прынята пастанову аб паляпшэнні працы Павятовага праўлення БГ-КТ.

На заканчэнне канферэнцыі адбылася мастацкая частка — выступіў драмгурток з Гарадка пад кіраўніцтвам Алеся Дзярманскага.

Драмгурток даў пастаноўку двух аднаактовых п'ес: «Валодзін гальштук» — К. Крапівы і «Боты» — М. Крапіўніцкага.

Ізноў трэба падкрэсліць сілу ўздзейнічавання мастацкага беларускага слова. Артысты-самадзейнікі так добра ігралі свае ролі, што гледачы перажывалі тое, што адбывалася на сцэне. Удзельніца калектыву Вольга Дзярманская так перадала матчыныя перажыванні ў п'есе «Валодзін гальштук», што многія выціралі мімаволі наплываючыя слёзы. Пасля гарадоцкія артысты адспявалі некалькі песень, між іншым прыпеўкі, складзеныя ў адрас дэлегатаў.

Кіраўнік гэтага-ж гуртка, Алесь Дзярманскі выступіў з заклікам арганізаваць мастацкую самадзейнасць.

У адным вагоне з гарадоцкімі артыстамі вярталася дамоў моладзь Рагачоў. Яны супольна і паасобку вельмі прыгожа спявалі. Рагачоўская моладзь таксама пастанавіла сарганізаваць у сваёй вёсцы мастацкі гурток і прыехаць з выступленнямі ў Гарадок. Адначасова запрасілі яны гарадоцкіх артыстаў прыехаць у Рагачы.

Канферэнцыя ў Семятычах пакінула па сабе шмат уражанняў. Яна сталася штуршком, які напэўна разбудзіць беларускае насельніцтва і яно шырока ўключыцца ў працу на роднай ніве.

М. Х.



*Радасць бацькоў*

## Вечар прысвечаны 15 гадавіне ўтварэння ЗВМ

1 сакавіка г. г. у Беластоцкім тэатры ім. А. Венгеркі адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 15 гадавіне ўтварэння Саюза барацьбы маладых (ЗВМ).

На вечар прыбылі былыя члены і дзеячы ЗВМ з усёй Беласточчыны. Прысутныя былі таксама дзеячы ЗВМ Беласточчыны, якія сёння працуюць у іншых мясцовасцях нашай краіны, між-іншым першы старшыня Ваяводскага Праўлення ЗВМ у Беластоку Тадэуш Стшалкоўскі. Прысутнічалі таксама першыя арганізатары ЗВМ на Беласточчыне: Галена Казак, Пятро Карпюк, Анатоль Дзікі і іншыя.

Урачыстасць адкрыў сакратар ВК ПАРП у Беластоку — Пятро Любенецкі. З дакладам на тэму слаўнай мінуўшчыны ЗВМ выступіў першы сакратар Ваяводскага камітэта Саюза Соцыялістычнай моладзі ў Беластоку — Генрык Бранакоўскі.

Вельмі хвалюючым быў момант, калі Беластоцкія гарцэры ўручылі букеты жывых кветак прысутным на вечары бацькам памардаваных рэакцыйным падполлем ЗВМ-оўцаў Беласточчыны.

Пасля афіцыяльнай часткі артысты Беластоцкага тэатра выступілі з цікавай пастаноўкай, адлюстроўваючай фрагменты барацьбы ЗВМ.

Пасля акадэміі, у доме Партыі адбылася вечарніца, сарганізавана Ваяводскім Камітэтам святкавання 15 гадавіны з дня ўтварэння ЗВМ.

(вб)



*Прэзідыум акадэ[illegible]* *фота — З. З.*

## Коратка

БЕЛАСТОК

3 сакавіка г. г. адбылося пасяджэнне Праграмова - статутовай камісіі пры ГП БГ-КТ, якая разглядзела праект новага статута Беларускага грамадска - культурнага таварыства, які будзе прадстаўлены да зацверджання агульнаму З'езду Таварыства.

КРЫНКІ

2 сакавіка 1958 г. драматычны калектыў, які існуе пры Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства выступіў у Крынках (Сакольскі павет) з пастаноўкай 3-х аднаактовых п'ес: — «Прымакі» — Я. Купалы, «Міхалка» — Далецкіх і «Пярэстая Красуля» — Чужыніна.

Насельніцтва Крынак вельмі цёпла ўспрыняла выступленні беластоцкага беларускага драмгуртка.

ГАЙНАЎКА

У Гайнаўцы, у зале Беларускага Агульнаадукацыйнага ліцэя адбыўся агульны сход насельніцтва. На сходзе вылучана дэлегатаў на Павятовую канферэнцыю Аддзела БГ-КТ, якая адбудзецца ў Гайнаўцы.

З дакладам аб дзейнасці БГ-КТ выступіў член Прэзідыума ГП БГ-КТ Кастусь Майсеня. Пасля даклада доўга працягваліся цікавыя спрэчкі — паасобныя ўдзельнікі выказалі шмат цікавых заўваг і прапаноў да працы Таварыства на бліжэйшую будучыню.

Пад канец схода выступіў вучнёўскі харавы калектыў беларускага ліцэя, які выканаў некалькі беларускіх, польскіх і рускіх песень.

* * *

У гэты-ж дзень у Гайнаўцы адбылася нарада настаўнікаў беларускіх школ Гайнаўскага павета. Нарада была арганізавана Праўленнем гайнаўскага Аддзела БГ-КТ.

На нарадзе абмеркавана важнейшыя пытанні адносна працы Аддзела БГ-КТ і актыўнага ўключэння ў гэтую справу настаўнікаў. (вб)

## Даклад аб партызанскай дзейнасці

3 сакавіка г. г. ў Гайнаўскім «Доме шахцёра» рэд. Алесь Амільяновіч выступіў перад жыхарамі Гайнаўкі з дакладам на тэму дзейнасці беларуска - совецкіх партызан на Беласточчыне ў гады фашысцкай акупацыі.

На дакладзе прысутнічала каля 100 жыхароў Гайнаўкі. Яны з вялікай цікавасцю выслухалі яго. Аб зацікаўленасці дакладам сведчыць факт, што каб паслухаць яго ў Гайнаўку прыехалі некаторыя жанчыны, жоны загінуўшых партызан з Белавежы і Дубін (вб)

## Варшаўскія студэнты на сходзе БГ-КТ у Гайнаўцы

9 лютага г. г. адбудзецца сход Гайнаўскага аддзела БГ-КТ. На гэты сход пастанавілі прыехаць Варшаўскія студэнты. Яны выступяць з беларускай песняй і паэзіяй.

Намечана таксама сустрэчу студэнтаў з насельніцтвам павета. (вб)

# Міжнародны агляд

Газета «Уол-стрыт джорнэл» не так даўно змясціла паведамленне з Бон, у якім гаворыцца, што Заходняя Германія прыступае да «шырокай кампаніі закупаў» узбраення, каб ператварыць у бліжэйшыя гады заходнегерманскую армію, флот і ваенна - паветраныя сілы ў «ультрасучасную ўдарную ваенную машыну».

Амерыканскія фірмы атрымалі каля 60-ці працэнтаў заходнегерманскіх заказаў на ўзбраенне, таму што немцы абапіраюцца ў асноўным на ракетныя снарады і іншыя складаныя канструкцыі, у галіне якіх ЗША маюць тэхнічнае першынство на Захадзе.

* * *

Французскі ўрад прыняў рашэнне стварыць у Алжыры ўздоўж усёй тунісскай граніцы забароненую зону шырынёю да 50-ці кілометраў. У сувязі з гэтым мяркуюць выселіць 70 тысяч жыхароў з раёнаў якія войдуць у гэтую зону. Зона будзе замініравана а таксама забяспечана рознымі ваеннымі збудаваннямі.

Як сцвярджае заява міністра нацыянальнай абароны Шабан — Дэльмаса, французскім войскам, размешчаным у Алжыры ўздоўж тунісскай граніцы, ад гэтага часу прадстаўляецца «поўная свабода дзеянняў». Акрамя таго, указваецца ў заяве, французскія войскі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Туніса, увесь час парушаюць апошнія ўказанні тунісскага ўрада, забараняючы перасоўванне на тэрыторыі краіны французскіх войск.

* * *

Самалёты ваенна - паветраных сіл Інданезіі робяць налёты на гарады Поўночнай Суматры, раёна Поўночнай Сулавесі і іншыя, якія, знаходзяцца пад уладай мяцежнікаў, якія імкнуцца скінуць урад прэзідэнта Сукарно. Асноўнымі аб'ектамі бамбардзіроўкі былі месныя радыёстанцыі. Гэтыя меры былі прыняты ў адпаведнасці з рашэннем ўрада аб блакадзе мяцежных раёнаў, якія атрымліваюць дапамогу з-за граніцы.

24 лютага 1958 года, выступаючы на сходзе ветэранаў антыгаландскай вайны, прэзідэнт Сукарно заявіў: «Пэўны блок незадаволены незалежнай актыўнай палітыкай Інданезіі, ён жадае, каб яна праводзіла аднабаковую палітыку, і з гэтай мэтай умешваецца ва ўнутраныя справы Інданезіі. Але мы не пацерпім умяшання іншаземных сіл. Доўг не толькі ўрада, але і ўсяго народа — ахаваць рэспубліку ад спроб уцягнуць яе ў які-небудзь з блокаў».

* * *

Як паведамляе В'етнамскае інфармацыйнае агенцтва, місія сувязі Вярхоўнага Камандавання В'етнамскай Народнай арміі ў сваіх пратэстах, накіраваных у Міжнародную камісію нагляду і кантролю ў В'етнаме, прыводзіць новыя факты незаконнай дастаўкі Злучанымі Штатамі ваенных матэрыялаў і ваеннага персанала ў Поўднёвы В'етнам.

У прыватнасці, місія сувязі паведаміла, што па няпоўным даным, за перыяд лістапад—снежань 1957 года ў Сайгоне і іншых портах Поўднёвага В'етнама было выгружана больш 2.500 тон ваенных матэрыялаў для поўднёвав'етнамскай арміі. У пратэстах місіі адзначаецца таксама, што ў кастрычніку - лістападзе мінулага года поўднёвав'етнамскія ўлады ў 140 выпадках парушалі граніцу поўднёвай часткі дэмілітарызаванай зоны.

* * *

Агенцтва АДН паведамляе з Кельна аб тым, што 44 заходнегерманскія прафесары, якія працуюць ва ўніверсітэтах і іншых вышэйшых навучальных установах ФРГ, звярнуліся да ўсіх членаў профсаюзаў у Заходняй Германіі з заклікам разам з прадстаўнікамі інтэлігенцыі змагацца супроць пагрозы атамнай вайны. Вучоныя, якія падпісалі адозву, патрабуюць стварэння ў Еўропе зоны, вольнай ад атамнай зброі, адмовы ад уключэння Заходняй Германіі ў амерыканскую сістэму баз для запуску ракетнай зброі, ад аснашчэння бунлэсвера ядзернай зброяй.

У адозве падкрэсліваецца, што стварэнне еўрапейскай безатамнай зоны, было-б першым важным крокам да захавання міру для ўсіх немцаў. Гэты крок, гаворыцца ў ёй, адпавядаў-бы інтарэсам насельніцтва абоіх частак расколатай Германіі, інтарэсам усіх еўрапейскіх народаў.

* * *

Былы спецыяльны саветнік прэзідэнта Эйзенхауэра па пытаннях разбраення, Гарольд Стасен апублікаваў у мінулым тыдні ў газеце «Нью-Йорк-таймс» другі артыкул, у якім падкрэслівае, што ў інтарэсах міру вельмі жаданай была-б хутчэйшая сустрэча прэзідэнта Эйзенхауэра з кіраўнікамі Савецкага Саюза. «Калі найбольш буйныя краіны валодаюць такой беспрацэдэнтнай магчымасцю знішчэння чалавецтва, якой яны цяпер валодаюць, — піша Стасен, — то кіраўнікі дзяржаў гэтых краін павінны весці перагаворы. Для кожнага такога ўрада кантакты не павінны абмяжоўвацца лістамі, ці нарадамі міністраў замежных спраў ці паслоў. Яны павінны ўключаць непасрэдныя сустрэчы за круглым сталом самых вышэйпастаўленых кіраўнікоў, і чым хутчэй гэта будзе, тым лепш... Я лічу, што нарада на самым высокім узроўні, якая адбылася ў Жэневе ў 1955 г., садзейнічала ўмацаванню міру».

* * *

Газета «Дэваархейд» апублікавала заяву Палітбюро ЦК Комуністычнай партыі Нідэрландаў у сувязі з намераннем галандскага ўрада размясціць у краіне амерыканскія ваенныя базы.

У заяве ўказваецца, што шырокія колы галандскага народа выказваюць непакой з прычыны гэтых планаў урада, якія могуць садзейнічаць толькі абвастрэнню міжнароднай напружанасці. Гэтыя планы могуць мець катастрафічныя вынікі для Галандыі ў выпадку, калі яна будзе ўцягнута ў вайну супроць краін соцыялістычнага лагера.

Ул. Л.

---

## Канферэнцыі Беларускага грамадска культурнага таварыства

У нядзелю, 9 сакавіка адбудуцца 3 канферэнцыі БГ-КТ — у Гайнаўцы, Бельску і Саколцы.

# Вырашэнне важных эканамічных праблем

Ад 27 лютага да 1 сакавіка адбывалася пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'еднанай рабочай партыі. На пасяджэнні абмяркоўваліся найважнейшыя ў сучасны момант для нашай краіны эканамічныя пытанні.

З дакладам на тэму «Актуальныя пытанні гаспадарчай палітыкі на 1958 год» выступіў член Палітбюро С. Ендрыхоўскі.

У сваім дакладзе С. Ендрыхоўскі сказаў аб шматлікіх цяжкасцях ў нашай эканоміцы, якія трэба было вырашыць у 1957 годзе, і якіх нажаль не вырашана.

Пагоршылася становішча ў галіне ўнутранага гандлю. Узнікла гэта перш за ўсё таму, што прынята надта многа кароткатэрміновых крэдытаў з заграніцы. Яшчэ не наступіла поўная стабілізацыя рэальнага даходу насельніцтва, не задаволена патрэб насельніцтва адпаведным таварам.

У 1957 годзе ўсюлы яшчэ прыкмячалася парушэнне дысцыпліны працы; непатрэбныя, нічым не абгрунтаваныя прагулы і г. д.; не ўдалося яшчэ правільна раздзяліць нацыянальнага даходу.

Гэтыя недастаткі непасрэдна паўплывалі на ўсю нашу эканоміку — падвоілі цяжкасці. «У 1958 годзе — сказаў С. Ендрыхоўскі — трэба абавязкова правесці стабілізацыю ўнутранага рынку шляхам павялічэння колькасці патрэбных тавараў розных асартыментаў, узняць на вышэйшы ўзровень становішча ўнутранага рынку, павялічыць нацыянальны даход і г. д.».

У ліку перадавых пытанняў, якія абмяркоўвалася на Пленуме ставілася пытанне аб пенсіях.

У выніку таго, што дагэтуль пенсіі былі невялікія — многія пенсіянеры ў далейшым працавалі, таму вырашана павялічыць іх так, каб мінімальная пенсія была не меншай як 500 зл; мінімальная ўдавіная пенсія — 360 зл. Апрача таго будуць таксама адпаведна павялічаны старэчыя і інвалідскія пенсіі. Аднак усе тыя, хто атрымоўвае старэчую пенсію не могуць ужо працаваць на прадпрыемствах ці ва ўстановах. На месцы звольненых з працы пенсіянераў нельга прымаць новых рабочых.

У сучасны момант у нашай краіне налічваецца каля 150 тысяч працуючых пенсіянераў.

Агульная колькасць грошай прызначаных на пенсіянераў у нашай краіне складае лік 2 мільярды злотых на год. Як адну з важнейшых пастаўлена таксама справу працы моладзі нашай краіны.

Усім тым, хто навучаецца якой-небудзь прафесіі будзе ўстаноўлена т. зв. вучнёўская зарплата — залежная ад якасці выкананай работы. Метад гэты будзе вельмі карысным эканамічным штуршком да пастаяннага павышэння кваліфікацыі.

Шырока абмяркоўвалася таксама вельмі трудная да вырашэння жыллёвая праблема. Штопраўда ў 5-гадовым плане заўважана значны рост жыллёвага будаўніцтва, аднак гэта ўсё яшчэ недастаткова для задавальнення патрэб насельніцтва краіны. Кватэры будуць атрымоўваць толькі тыя, каму яны неабходны, і хто не ў стане пабудаваць сабе ўласны дом; хто не зможа пастаянна ўносіць адпаведную суму грошай ў кааператыўнае будаўніцтва жыллёвых будынкаў.

Мы паказалі толькі на некаторыя пытанні, якія абмяркоўваліся на Пленуме. Наогул было іх значна больш. Вырашэнне гэтых важных у штодзённым жыцці пытанняў згуртуе вакол партыі мільёны працоўных.

УЛ. ЛЕБЯДЗІНСКІ

---

# Далейшае ўмацаванне калгаснага ладу ў СССР

25—26 лютага 1958 г. адбыўся Пленум ЦК КПСС. Пленум заслухаў і абмеркаваў даклад Н. С. Хрушчова «Аб далейшым развіцці калгаснага ладу і рэалізацыі машынна-трактарных станцый», таксама прыняў адпаведную пастанову.

Услед за пастановай аб рэалізацыі сістэмы кіравання прамысловасцю і правядзення яе ў жыццё апошняя пастанова Пленума ЦК КПСС у галіне ўмацавання сельскай гаспадаркі з'яўляецца буйнейшым дасягненнем совецкага ладу, марксісцка-ленінскай навукі, якая не задавальняецца дасягнутым, а ўвесь час кліча наперад, азараючы шлях да комунізма.

Найбольш увагі на Пленуме ЦК КПСС было ўдзелена пытанню аб рэарганізацыі МТС-аў. Усенародная барацьба за круты ўздым сельскай гаспадаркі, якая асабліва ўзмацнілася пасля вераснёвага Пленума ЦК КПСС, прывяла да значнага павелічэння вытворчасці прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі. Настойлівымі намаганнямі партыі і народа пераадолена доўгае адставанне жывёлагадоўлі. За перыяд з 1953 па 1957-ы год статак буйнай рагатай жывёлы павялічыўся на 10,9 млн. галоў, свіней — на 11 млн., авечак — больш, чым на 20 млн. Непадзельныя фонды калгасаў павялічыліся з 63,1 млд. рублёў на пачатак 1953 года да 98,6 млд. рублёў на пачатак 1957 года. Грашовыя і натуральныя даходы калгаснікаў ад грамадскай і асабовай гаспадаркі па разліку на аднаго працуючага павялічыліся ў 1957 г. у параўнанні з 1953 г. на 33 працэнты. Вялікую ролю ва ўздыме сельскай гаспадаркі адыграла аснашчэнне калгасаў, МТС і соўгасаў першакласнай сельскагаспадарчай тэхнікай. В. І. Ленін гаварыў у свой час, што калі-б даць сялянам 100 тыс. трактараў, яны сказалі-б — мы за комунію. Але-ж толькі за астатнія чатыры гады сельская гаспадарка краіны атрымала 908 тыс. трактараў, 293 тыс. збожжавых камбайнаў, 143 тыс. сіласаўборачных і кукурузаўборачных камбайнаў, 467 тыс. грузавых машын і г. д.

У стварэнні і ўмацаванні калгаснага ладу, у тэхнічным аснашчэнні сельскай гаспадаркі, ва ўмацаванні саюза рабочага класа і сялянства, вялікую ролю адыгралі МТС-ы.

Аднак у сучасны момант, калі калгасы ўмацаваліся ў арганіацыйна - гаспадарчых адносінах, калі эканоміка калгасаў значна паднялася, МТС-ы перасталі адпавядаць патрэбам развіцця сельскай гаспадаркі. МТС-ы пачалі нават тармазіць далейшы ўздым перадавых калгасаў, звязвалі ініцыятыву калгасных кадраў і ўсіх калгаснікаў. Гэта часта прыводзіла да зніжэння адказнасці за павышэнне ўраджайнасці, выклікала неабходнасць утрымання двайнога кіраўнічага апарата, прыводзіла да няпоўнага выкарыстання сельскагаспадарчай тэхнікі і г. д. Таму «Пленум ЦК КПСС лічыць, што ў інтарэсах далейшага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі краіны, развіцця калгаснага ладу мэтазгодна змяніць існуючы парадак вытворча - тэхнічнага абслугоўвання калгасаў і паступова рэарганізаваць машынна-трактарныя станцыі, якія, адыграўшы вялікую станоўчую ролю, ужо ва многім вычарпалі свае асноўныя функцыі. Цяпер, калі большасць калгасаў можа самастойна набываць і правільна, больш рацыянальна выкарыстоўваць трактары, камбайны і іншыя сельскагаспадарчыя машыны, мэтазгодна перайсці да продажы гэтых машын непасрэдна калгасам».

Такім чынам, рэарганізацыя МТС-аў ідзе ў кірунку устаранення другога, у сучасны момант ужо непатрэбнага гаспадара на калгаснай зямлі. МТС-ы будуць мець цяпер іншую функцыю, функцыю рамонтна - тэхнічных станцый. Продаж сельскагаспадарчых машын непасрэдна калгасам, разлічана на 2—3 гады, у залежнасці ад таго, калі калгасы, у даны момант больш адсталыя, змогуць набыць гэтыя машыны. Да таго часу, пакуль слабыя калгасы не змогуць набыць гэтых машын, іх будуць абслугоўваць МТС-ы.

ЦК КПСС звяртае ўвагу на тое, што рэарганізацыя МТС-аў праходзіла з улікам канкрэтных умоў асобных калгасаў, раёнаў, абласцей.

Рэарганізацыя ў галіне сельскай гаспадаркі ў СССР яшчэ больш умацуе калгасны лад, павысіць жыццёвы ўзровень працоўных, будзе яшчэ адной важнай перамогай СССР у мірным эканамічным спаборніцтве соцыялізма з капіталізмам.

УЛАДЗІМІР ЛЕБЯДЗІНСКІ

 

Л. АРЛОВА
загадчык анкалагічна-хірургічнага аддзялення 1-й клінічнай бальніцы гор. Мінска.

# Чалавека лечаць іголкамі

Не так даўно група совецкіх урачоў знаходзілася ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы. Мы знаёміліся з некаторымі кітайскімі метадамі лячэння. Незабыўнае ўражанне зрабіла на нас наведанне шпіталя народнай медыцыны. Мы ўбачылі ў палатах людзей, якія сядзелі і ляжалі... з іголкамі ў целе. Нават мы, урачы, былі здзіўлены гэтым відовішчам.



*На здымку: іголкі, якія ўжываюцца ў кітайскім народным метадзе лячэння ўколамі.*

Дырэктар шпіталя, выдатны спецыяліст жанчына - ўрач Чжу Лянь расказала нам гісторыю гэтага метада лячэння— іголкаўколвання, або па-кітайску «чжэнь-цзю». Ён узнік многа стагоддзяў назад, дзякуючы вялікай назіральнасці і цікаўнасці кітайскага народа. З даўніх часоў лекары (ды і не толькі яны) заўважылі, што раненне, або неспадзяваны ўкол у якую-небудзь частку цела зусім нечакана вылечвае тую ці іншую хваробу.

З цягам часу гэтыя назіранні ўдакладніліся. Было ўстаноўлена, што, напрыклад, укол у верхнюю губу вылечвае ліхаманку, у Ахілава сухажылле — галаўны боль, у кісць рукі — бяссонніцу і г. д. Урачы пачалі настойліва шукаць гэтыя невядомыя кропкі на целе чалавека для лячэння многіх іншых хвароб.

Цяпер кітайскія ўрачы налічваюць 693 кропкі на целе чалавека, уколваннем у якія можна вылечыць тую або іншую хваробу.

Нашае ўяўленне звязвае ўкол іголкі з болем. А як абстаіць справа тут? Як гэта ні дзіўна слухаць нашаму чалавеку, але правільна зроблены ўкол выклікае ў хворага не боль, а пачуццё прыемнага цяпла. Мы пераканаліся ў гэтым, размаўляючы з многімі хворымі. Праўда, іголкі не зусім звычайныя. Яны сталёвыя, сярэбраныя або залатыя даўжынёю ад двух з палавінай да 10 сантыметраў. Таўшчыня іх 1—2 міліметры. Іголка пакідаецца ў целе на мінуту— дзве. У некаторых выпадках яна застаецца там на поўгадзіны і больш.

Трэба сказаць, што кітайскія ўрачы лечаць іголкамі сотні хвароб — нервовых, скурных, гінекалагічных, дзіцячых і многіх іншых. Іголкаўколванне дае выдатныя вынікі пры лячэнні неўрытаў, неўрозаў, рэўматызму, захворванняў суставаў, экземы, астмы, туберкулёзу. Лячэнне іголкамі ўжываецца ва ўсіх выпадках, калі патрэбна неадкладная дапамога, — пры страце прытомнасці, цеплавых ударах, прыступах груднoй жабы.

Заходзім у адну з палат. У ёй ляжыць дзяўчынка. У яе дзіцячы параліч — поліяміэліт, захворванне, якое можа пакінуць чалавека калекай на ўсё жыццё. Цяпер дзяўчынка ўжо варушыць рукамі і нагамі. Урач расказвае, што праз шпіталь прайшло 8.063 чалавекі з 213 рознымі хваробамі. Амаль усе яны (92,5 працэнта) сталі здаровымі людзьмі.

Механізм уздзеяння чжэнь-цзю на арганізм чалавека яшчэ не зусім вывучан. Ёсць падставы сцвярджаць, што іголкаўколванне дзейнічае на кару галаўнога мозгу праз перыферычныя нервы. Нервовыя імпульсы, якія ідуць ад месца ўколу, актывізуюць кару галаўнога мозгу. Пры дапамозе падкоркавых цэнтраў і перыферычных нерваў кара падаўляе ачагі хваравітага ўзбуджэння, якія ўзніклі ў арганізме.

Укол уплывае на ўвесь арганізм і яго нервовую сістэму ў цэлым. Таму і месца ўколу не заўсёды знаходзіцца побач з хворым участкам. Яно можа знаходзіцца і вельмі далёка ад яго. Мэта ўколу заключаецца ў тым, каб выклікаць і рэгуляваць патрэбную рэакцыю нервовай сістэмы, аднаўляць нармальную актыўнасць працэсаў узбуджэння і тармажэння. Такім чынам, укол іголкай зводзіцца да моцнага або слабага раздражнення нерва.

Мне могуць сказаць: вось, маўляў, вы так падрабязна ўсё распісваеце, а чаму ў мінскіх бальніцах яшчэ не лечаць іголкамі? Што-ж, такое пытанне законнае. Справа, ў тым, што пачаць масавае лячэнне ўколамі не так проста, як гэта могуць думаць. Перш за ўсё трэба мець спецыялістаў, якія выдатна ведалі-б сваю справу. Прычым трэба ведаць не толькі месцазнаходжанне ўсіх кропак, але і ведаць, у якую калоць пры пэўнай хваробе! Можа здарыцца, што пры няправільным уколе атрымаеш якраз адваротны вынік.

Цяпер метад іголкаўколвання шырока вывучаецца як у Кітаі, так і ў нас. Па ўказанню таварыша Мао цзэ-дуна ў Пекіне створан эксперыментальны інстытут тэрапіі ўколаў. Шматлікія пункты па лячэнні ўколамі, а таксама курсы па падрыхтоўцы медыцынскага персаналу арганізаваны па ўсёй краіне. Вядуцца шырокія вопыты лячэння іголкаўколваннем у Маскве. Неўзабаве, дзякуючы аб'яднаным намаганням кітайскіх і совецкіх вучоных, чжэнь-цзю зойме вялікае месца ў нашых бальніцах. Гэты метад мае вялікае мінулае, але яму належыць і вялікае будучае.

---

## Куток гаспадыні

Нельга рэзаць калач, пакуль ён не астыне. Калі-ж з якой-небудзь прычыны яго трэба нарэзаць неадкладна, то рэкамендуецца абмачыць востры нож у гарачай вадзе, або накаліць яго, хутка абцерці і потым рэзаць. Такім-жа спосабам можна рэзаць усякае дражджавое цеста і хлеб, пакуль яны яшчэ цёплыя

## Сельскагаспадарчыя парады

### Ідзе вясна, падумайце аб насенні

Набліжаецца вясна. Трэба заўчасна падумаць аб падрыхтоўцы насення яравых раслін.

Калі свайго насення нехапае — трэба абавязкова параіцца добрага агранома ці настаўніка сельскагаспадарчай школы, які гатунак насення найлепш купіць, бо толькі з добрага насення атрымаем добры ўраджай.

Больш за ўсё трэба звяртаць увагу на насенне канюшыны. Насенне канюшыны найлепш купляць у Гмінных кааператывах (ГС-ах).

Найбольш небяспечным ворагам канюшыны з'яўляецца «канянка», таму што яе вельмі цяжка адрозніць ад насення канюшыны і трудна выкараніць з палеткаў, а калі разрасцецца — тады можа знішчыць увесь пасеў канюшыны.

Таксама трэба ўважна купляць насенне травы на пасеў, таму што насенне многіх траў зусім падобнае.

Зерне яравых раслін трэба заўчасна падрыхтоўваць да пасеву. Зерне прызначанае на насенне павінна быць «поўнае», вялікае — адно ў адно, цяжкае, свежае, непратухлае, не пакалечанае, не пагрызенае, чыстае і без пустазелля. Чым буйнейшае і цяжэйшае насенне, тым больш прыгоднае на пасевы, таму што такое насенне дае буйнейшы ўраджай і мацнейшыя расліны. Буйнае, здаровае зерне, добра ўзыходзіць.

У кожным ваяводстве ёсць доследныя станцыі, якія займаюцца між іншым даследаваннем прыдатнасці зерня да пасеваў. Калі ўмовы не дазваляюць гаспадару даставіць насенне ў доследную станцыю, ён можа сам пераканацца ці зерне прыгоднае. Невялікую колькасць пяску патрэбна прамыць гарачай, гатаванай вадою і калі пясок астыгне — змяшчаем яго ў талерку або гліняную місачку. Адлічваем ,роўна 100 штук зярнят і роўненька раскладаем у талерцы на пяску, прыціскаючы пальцам, каб лепш прыстала. Талерку гэтую накрываем другой талеркай ці місачкай і ставім непадалёку печы, у цёплым мейсцы. Пясок трэба штодзень папырскваць вадою, каб утрымаць вільготнасць. Пасля 3—4 дзён насенне стане пускаць парасткі. Зярняты не здольныя «ўзыйсці» пачарнеюць, абрастуць плесняй—гэтае насенне трэба адразу выбраць і злічыць колькасць штук.

Калі акажацца, што толькі палова зерня выпусціла парасткі — тады на полі, на прызначаным палетку, трэба пасеяць два разы толькі такога насення. Такім спосабам можна спраўдзіць і насенне буракоў. і морквы. і пятрушкі і інш. расліны.

Добрае, здаровае насенне буракоў павінна ўзыйсці так, каб са ста пасаджаных, вырасла 160 парасткаў (зерне бурака падвойнае, а то й патройнае).

Больш дакладна аб гэтым можна даведацца з кніжкі п. з. „Agrotechnika", tom I — dzieło zbiorowe, „Uprawa roli i roslin"— . Świętochowski.

Інж. Л. ВАЙТОВІЧ

---

Успаміны старога ТБШ-оўца 3

# Беларуская культурная дзейнасць часоў санацыі ў Беластоку

V

У перыяд ад 1931 па 1937 год легальны беларускі рух у Беластоку быў жорстка задушаны. Легальных беларускіх устаноў не было, калі не лічыць кароткага існавання кнігарні і выдавецтва «Сяўба» на Ліповай вуліцы.

Але духу беларускага народа ніхто зламаць не мог. Культурная дзейнасць беларусаў пасля ліквідацыі «Таварыства беларускіх школ» — легальнай беларускай арганізацыі — працягвалася пры Т. У. Р. («Таварыства універсітэтаў рабочых»). Туг былі арганізаваны драматычная, харавая, дэкламатарская, музыкальная секцыі. За час Т.У.Р. было падрыхтавана некалькі вельмі важных п'ес, у тым ліку «На дне» Горкага. Беластоцкім рабочым вельмі падабаліся гэтыя спектаклі, зала тэатра была заўсёды перапоўнена. Мастацкім кіраўніком быў Лявон Богуш, а ў артыстычным складзе пераважалі беларусы, хоць былі і палякі, погляды якіх не разыходзіліся з поглядам беларусаў.

Аднак, п'есы, якія найбольш любілі рабочыя, былі забаронены адміністрацыяй. Такія п'есы, як «На дне», рэвалюцыянізавалі народныя масы. Іх забарона абмежавала дзейнасць Т.У.Р. вельмі вузкімі рамкамі. Пачынаючы з 1937 года дзейнасць Т. У. Р. зусім аслабла. У такім стане яна працягвалася да 1939 года, да пачатку II сусветнай вайны.

VI

У 1937 годзе ў Беластоку паўстае «Таварыства працаўнікоў беларускага тэатра «Полымя» — каапэратыў працы. З вялікімі цяжкасцямі гэтая арганізацыя легалізавалася, адбіваючы першыя атакі ўлад. Быў падабраны калектыў, які складаўся з 18-ці сцэнічных артыстаў, 24-ох харыстаў і дванаццаціасабовага аркестра. Прайшло чатыры месяцы, і першы спектакль быў падрыхтаваны. Яго збіраліся паставіць у Гарадку. Аднак, адміністрацыйныя ўлады не далі для гэтай мэты памяшкання, спасылаючыся, як заўсёды, што неабходная зала занята іншай установай.

Больш таго, у далейшым улады пажадалі, каб каапэратыў дастаў сабе канцэсію. Але, пасылаючы некалькі разоў просьбу аб выдачы канцэсіі да ваяводскіх улад, члены каапэратыва ніводнага разу не атрымалі адказу. У лютым 1939 года з боку ўлад было зроблена апошняе злачынства, каб спыніць беларускі рух. У каапэратыў прышлі прадстаўнікі ўлад і без усякіх матываў забралі ўсе акты і архівы...

Так змагаўся наш народ за свае права «людзьмі звацца» у санацыйнай Польшчы.

VII

Пасля вызвалення ад гітлераўскага фашызма ў Народнай Польшчы паўстала пытанне аб арганізацыі беларускага культурнага жыцця. Было вырашана аднавіць дзейнасць «Таварыства працаўнікоў беларускага тэатра «Полымя». Сабраліся старыя яго члены, уступілі новыя. Адбыўся сход, на якім было выбрана праўленне. Была атрымана згода з боку ППР у асобе тагачаснага яе ваяводскага кіраўніка Арлоўскай. На працягу 45 дзён быў сабраны артыстычны калектыў, які налічваў 65 асоб. Пачалі працаваць харавая, эстрадная, балетная секцыі, салісты і аркестр. Былі даны 2 платных канцэрты ў Беластоку, 3 — у Бельску. Адначасова мастацкі калектыў абслугоўваў ваенныя часці Совецкай Арміі, а таксама шпіталі, за што атрымаў многа вусных і пісьмовых падзяк. На працягу двух год існавання члены «Полымя» далі 21 канцэрт.

Аднак гэты калектыў не мог паставіць сваёй дзейнасці на высокім узроўні з прычыны матэрыяльных нястач. Акрамя таго, памяшканне, якое займала «Полымя», было занята гандлёвай установай. Такім чынам, праца калектыву стала не магчымай.

Гэта адбывалася ў 1944—1946 г. г. Ад 1946 да 1956 года на тэрыторыі Беластока ніякай беларускай культурнай працы не адбывалася.

У лютым, 1956 года быў зроблены зварот, у напрамку выпраўлення памылак, зробленых у мінулым дзесяцігоддзі. Было ўзнята да жыцця Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Зноў пачала разгортвацца беларуская культурная дзейнасць. Яна будзе развівацца і далей, калі людзі, якія кіруюць ёю, памятаючы ахвяры папярэднікаў, будуць аддана, добрасумленна аддаваць усе свае сілы для гэтай дзейнасці

К. СІДАРОВІЧ



 

